*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак* БАГУШЭВІЧ




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 35 (91) ◈ 2 верасня 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)

## *Верасень — традыцыйны пачатак вучобы. Будзем вучыцца: грамаце, дэмакратыі, жыццю ў незалежнай Беларусі*

## Поступ тыдня

**АПУБЛІКАВАНА ПАСТАНОВА САВЕТА МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ АБ ВАЕННАЙ ПРЫСЯЗЕ** ва Узброеных Сілах на вернасць Рэспубліцы Беларусь. Гэтая падзея мае адбыцца толькі 31 снежня гэтага года, а не раней, як прапаноўвала дэмакратычная грамадскасць.

***КАЛЯ СОТНІ ЗАКАНАДАЎЧЫХ АКТАЎ МЯРКУЕЦЦА РАЗГЛЕДЗЕЦЬ*** *на асенняй сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі. Гэта стала вядома на першым пасяджэнні парламенцкага Кансультатыўнага Савета. Нарэшце тут дамовіліся, што з тэксту праекта закона аб Узброеных Сілах Беларусі варта выключыць тэрмін «многанацыянальныя» і зняць пункт аб узаемадзеянні УС Беларусі са стратэгічнымі сіламі СНД, якія часова размяшчаюцца на тэрыторыі рэспублікі, бо інакш гэта не адпавядала б канцэпцыі нейтральнай і бяз'ядзернай Беларусі. Цяпер слова за парламентам.*

*Напрыканцы адна дэталь, на якую звярнулі ўвагу журналісты: калі на пасяджэнні парламенцкага Кансультатыўнага Савета прысутнічала ўсяго некалькі карэспандэнтаў, то тады ж увечары на плошчы Незалежнасці за мітынгам, скліканым па ініцыятыве Беларускага Народнага Фронту і дэмакратычных партый, назірала каля сотні прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі.*

***У ПОЛЬСКІМ ГАРАДЗЕ КРЖЫЗОВЕ АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА МОЛАДЗІ*** *Польшчы, Германіі, Чэхіі і Славакіі, іншых краін Еўропы, у тым ліку Беларусі. Мэта дыскусіі: акрэсліць ролю маладога пакалення ў вырашэнні актуальных праблем выжывання еўрапейскіх народаў.*

**БУДУЦЬ ВЕРНУТЫ ДАДОМУ САЛДАТЫ І СЯРЖАНТЫ** — грамадзяне Беларусі, якія праходзяць службу на заставах сярэднеазіяцкай пагранічнай акругі, бо пагранічныя сілы і Сярэдняй Азіі перайшлі пад юрысдыкцыю Расіі. Такое рашэнне прыняло Упраўленне пагранічных войскаў Савета Міністраў Беларусі.




**ПАЗІЦЫЯ БНФ** Стар. 2

**Госць з Канады — Кастусь Акула** Стар. 4


Тамара Антонаўна Бабылёва — настаўніца сярэдняй школы № 53 г. Менска. Яна ўжо чвэрць стагоддзя выкладае беларускую мову і літаратуру. Выхаванцам яе заўтра выбірацца ў самастойнае жыццё, куды яны, спадзяёмся, пойдуць са святой павагай да роднага слова.

**На здымку:** Т. Бабылёва.

**Фота Лявона ДУБАНЕВІЧА.**

## *Шаноўныя чытачы!*

***Ідзе падпіска на перыядычныя выданні на першую палову 1993 года.***

Не будзем рэкламаваць Вам «Наша слова», Вы яго ведаеце, бо чытаеце. Ведаеце таксама — яно і Ваша слова. Бо кожная слушная думка ці прапанова чытачоў абавязкова знаходзіць водгук на старонках газеты. Мы — за дыскусію, за тое, каб ісціну шукаць разам, шляхам абмену меркаваннямі, але абавязкова прыстойна, не ганьбячы адзін аднаго.

Мы — за разважлівасць, шляхетнасць і кампетэнтнасць. Супрацоўнікі газеты падтрымліваюць пастаянныя сувязі з высокападрыхтаванымі спецыялістамі — вучонымі, літаратарамі, журналістамі.

**«Наша слова» — для тых, хто не абыякавы да нацыянальна-культурнага Адраджэння роднай Беларусі.**

**ДЛЯ ТЫХ, ХТО АДЧУВАЕ ПРАГУ ДА САМААДУКАЦЫІ.**

Рэдакцыя і ў наступным годзе плануе працягваць асноўныя рубрыкі і раздзелы, якія знайшлі падтрымку ў чытача. Акрамя таго, з дапамогаю спецыялістаў маем намер адчыніць на старонках газеты вочна-завочную школу беларускай мовы і кансультацыйны раздзел.

**Яшчэ звяртаем увагу:** менавіта таму, што «Наша слова» — газета вучэбная, кіраўніцтва рэспубліканскага ТБМ дамаглося, каб падпісная цана была значна меншай, чым сапраўдны сабекошт выдання.

Мяркуем, немалаважнае значэнне «Нашага слова», акрамя іншага, у тым, што яно спрыяе яднанню прыхільнікаў беларушчыны не толькі ў рэспубліцы, але і ва ўсім свеце. Дзякуючы яму, людзі, родныя па душы, змаглі адшукаць адзін аднаго, наладзіць ліставанне.

На жаль, па прычынах, якія не залежалі ад рэдакцыі, падпісацца на «Наша слова» на наступны год за межамі рэспублікі пакуль немагчыма — яно, як і іншыя беларускія выданні, не ўнесена ў падпісны каталог краін СНД.

Таму просім тых, хто не хоча страціць сувязі з газетай, тэрмінова прыслаць у рэдакцыю ці на адрас сакратарыята рэспубліканскага ТБМ ліст аб сваім жаданні прадоўжыць падпіску на «Наша слова». Будзем дамагацца з дапамогаю Міністэрства інфармацыі РБ, каб «Наша слова» паранейшаму даходзіла і да чытачоў за межамі Беларусі.

**На 3-4-ай старонках гэтага нумара газеты па просьбе чытачоў друкуем падпісны абанемент на беларускай мове.** Але калі ў Вас яго не акажацца, запаўняйце той абанемент, які знойдзецца на пошце. Галоўнае зараз — не марудзьце, калі ласка, з падпіскай, бо чым хутчэй у рэдакцыі стане вядома пра колькасць падпісчыкаў на наступны год, тым дакладней можна будзе планаваць матэрыяльнае забеспячэнне выпуску газеты на наступны год. А гэта, як Вы разумееце, зусім няпроста цяпер.

Спадзяёмся на Вашу падтрымку, сябры!

20 жніўня споўніўся год Беларускаму згуртаванню вайскоўцаў, якое было створана на плошчы, што цяпер называецца плошчай Незалежнасці, у час мітынгу супраць ГКЧП. Год назад, калі большасць генералаў і афіцэраў Савецкай Арміі займалі пазіцыю нейтралітэту і чакалі, хто пераможа ў Маскве, каб потым далучыцца да пераможцаў, а некаторыя актыўна дапамагалі путчыстам, знайшліся мужныя людзі ў афіцэрскіх мундзірах, якія рашуча выступілі на абарону незалежнасці і суверэнітэту Беларусі.

Сябры БЗВ далі зразумець усім, што без беларускага войска, у якім гучыць родная мова, ушаноўваецца наша гісторыя і культура, немагчыма існаванне незалежнай Рэспублікі Беларусь. Яны рашуча выступалі і выступаюць супраць карупцыі, якая засталася ў войску ў спадчыну ад Савецкай Арміі. І хоць яшчэ і сёння тыя, хто ў свой час добра пагрэў рукі ля вайсковай маёмасці, спрабуюць забараніць патрыятычную дзейнасць БЗВ, а кіраўнікоў і актывістаў яго звольніць з беларускага войска. БЗВ жыве і папаўняецца ўсё новымі і новымі сябрамі.

**ВІС.**

*Чыталі?*

# «Хрысьціянская Думка»

Выйшаў у свет першы нумар «Хрысьціянскай Думкі» выдання Беларускай Каталіцкай Грамады (БКГ). Яго наклад склаў 3 тысячы паасобнікаў. Рэдактар Вітаўт Чаропка.

Нумар адкрываецца ўхваламі II Сойму БКГ да каталікоў Беларусі, да папы Рымскага Яна-Паўла II, да Вярхоўнага Савета і ўрада Рэспублікі Беларусь, да святароў Беларусі.

Увазе чытача прапанаваны «Малітваспеў Святога Францішка з Асіжу» (паводле Ф. Брэнтана) у перакладзе Тодара Дубровы.

Роспавяд пра цудатворную ікону Вострабрамскай Божай Маці, якую шануюць вернікі ўсіх канфесій, можна прачытаць у публікацыі «Абраз Вострабрамскай Божай Маці». «Ксёндз Адам Станкевіч і яго справа» — артыкул Анатоля Сідарэвіча, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння вядомага святара, гісторыка, філосафа і грамадскага дзеяча.

У нумары друкуюцца раздзелы з працы кс. А. Станкевіча «Хрысціянства і Беларускі Народ».

Канфесійныя праблемы ў Вялікім княстве Літоўскім у час барацьбы Гедыміна з крыжакамі ўзнімаюцца ў публікацыі Вітаўта Чаропкі «...Быў пэўны ў сваім рашэнні хрысціцца».

Публікацыя Алеся Бяляцкага змяшчае цікавую інфармацыю з гісторыі Браслаўшчыны, інтэрв'ю з настаяцелем і парафіянамі браслаўскага касцёла.

«Хто аўтар?» — артыкул Язэпа Янушкевіча, у якім узнімаецца пытанне аўтарства паэмы «Блажэнны Андрэй Баболя». Тут жа надрукавана і сама паэма.

Яўген Шунейка ў сваім эсэ «На ўзбярэжжах» падкрэслівае блізкасць жывапіснага і архітэктурнага барока ў Беларусі і Партугаліі — двух «узбярэжжах» каталіцкага свету Еўропы.

Увагу чытача не можа не прыцягнуць інфармацыя пра падручнік каталіцкіх спеваў на лацінскай мове «Пачаткі, альбо скарочаны метад харальнага спеву», якую падрыхтаваў Уладзімір Неўдах.

У нумары публікуецца першая частка кнігі Караля Вагнэра «Апавяданне аб жыцці Айца Піо» ў перакладзе кс. У. Чарняўскага.

Напрыканцы выдання змешчаны рэцэнзіі на новыя рэлігійныя выданні і хроніка Беларускай Каталіцкай Грамады.

**Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# «ТЭАТРАЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ»

Выйшаў чацвёрты нумар часопіса, і можна з упэўненасцю сказаць, што ён за такі кароткі час ужо паспеў набыць свой твар і паспяхова заваёўвае прыхільнасць шматлікіх чытачоў.

Нумар адкрываецца п'есай Васіля Шашалевіча «Сімфонія гневу», у якой аўтар яскрава паказвае, як знішчаліся таленты ў часы таталітарнага рэжыму. Уступнае слова да п'есы напісаў Сцяпан Лаўшук.

Сяргей Грахоўскі ў сваіх успамінах «Мне пашанцавала пазнаёміцца з ім» расказвае пра жыццё і гібель драматурга Васіля Антонавіча Шашалевіча.

Нататкі Яўгена Міклашэўскага «Тэатр у парламенце» будуць таксама даспадобы чытачам. Аўтар з іроніяй паказвае «ігру» парламенцкіх «акцёраў», не называючы іх сапраўдных прозвішчаў.

Вераніка Козел падрыхтавала справаздачу з чарговага II (IX) з'езда Саюза тэатральных дзеячаў Рэспублікі Беларусь.

У артыкуле Галіны Сяўковіч «Паводле даўніх вадэвіляў» размова ідзе пра адзін з апошніх спектакляў Талачынскага народнага тэатра «Цераз лапаць — прымакі», створанага на аснове беларускіх вадэвіляў «Мікітаў лапаць» М. Чарота і «Прымакі» Я. Купалы.

Пра славутага акцёра Фёдара Іванавіча Шмакава чытач зможа прачытаць у публікацыі Анатоля Сабалеўскага «Шчаслівыя хвіліны».

«Мастацтва не памірае» — слова Юсты Беларускі пра Аляксандру Іванаўну Клімаву. У нумары змешчана рэцэнзія Алеся Марціновіча на драматычную адысею У. Дзюбы «Доктар Русель».

Шматлікім чытачам адрасаваны ўспаміны Зінаіды Канапелькі «Студыя БДТ-2 трэцяга набору».

«П'еса і спектакль» — рэцэнзія Таццяны Сабалеўскай на спектакль па п'есе М. Арахоўскага «Ку-ку».

У часопісе выдатна прадстаўлены рубрыкі «Летапіс» і «Пасля спектакля».

**Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**

*Але!*

# ЖАДАННЯ АДНАГО МАЛА

Сведкам цікавых метамарфоз і даволі непрыемных сюрпрызаў нярэдка робішся ў час вандровак па абсягах нашай суверэннай рэспублікі.

Пачну хаця б з паселішча, дзе жыву. У маёй Карме няма ніводнай вуліцы з шыльдай на роднай мове. Хоць з моманту ўвядзення Закона аб мовах мінула ўжо цэлых 2 гады, кармянскія дарожнікі паднеслі яшчэ адзін сюрпрыз. На разгалінаванні вуліц імя Абатурава і імя Давыдзенкі з'явіліся велізарныя шчыты-ўказальнікі на... рускай мове: «Литвиновичи, Чечерск, Струмень». І гэта, падкрэслім, у той час, калі адпаведнаму рэспубліканскаму міністэрству даручана зрабіць замену дарожных знакаў і выконваць іх надалей у дубліраваным двухмоўным варыянце.

З гэтай нагоды хочацца запытаць: дзе ж у такім разе пракурорскі нагляд за выкананнем Закона? Дарэчы, нічога не зрабілі па замене названай шыльды ў Карме і пасля таго, як з вострай крытыкай выступіла мясцовая газета «Зара над Сожам».

Ці вось маршрут у напрамку сталіцы рэспублікі. Імчыць насустрач нашаму «Ікарусу» «Лаз» з шыльдай на лабавым шкле «Красны пахар — Рагачоў». Першая частка шыльды выканана не па-руску, не па-беларуску, а, як мы кажам, «па-трасянску».

Але неўзабаве мы ўжо перасеклі абласную мяжу, трапілі на Магілёўшчыну. На трасе Бабруйск — Менск паміж вёскамі Сычкава і Баяры вочы рэжа ўказальнік «Цэглавы завод» замест больш правільнага нарматыўнага «цагельны».

Пры ўездзе ў Менск праводзім позіркам аўтобус-прыгажун германскай вытворчасці з дзяржнумарам 10—17 ОТР, вышэй якога прыгожа выведзена назва «Дзіцячы экспрес» замест «экспрэс». Вось, аказваецца, якую культуру і рэкламу роднай мовы мы нясём на Захад, бо аўтобус, які належыць фонду «Дзецям Чарнобыля», у асноўным курсіруе, відаць, па замежжу.

Канец маршруту — аўтавакзал «Усходні». Тут, поруч з жаданнем дапамагчы ўкараненню роднай мовы, ідуць на «павацыі» ў плане функцыяніравання ўласных найменняў. І як вынік, райцэнтр Акцябрскі на Гомельшчыне пераўтварылі ў Кастрычніцкі. А ў Гомелі пры перакладзе і напісанні ўласных назваў выбралі «сярэдні варыянт»: там рускія назвы пішуць у... беларускай арфаграфіі, сведчаннем чаму шыльда на тралейбусе № 1452 «Вакзал — вул. Пабеды — Валатава».

Праўда, ёсць і добрыя выключэнні. Так, асабіста мяне прыемна ўразіла выкананне абвестак на роднай мове мілагучным жаночым голасам на аўтавакзале ў пасёлку Доўск Рагачоўскага раёна, чаму могуць пазайздросціць і на сталічных аўтавакзалах. У цэлым жа пераход на беларускія тапонімы на вуліцах і аўтастрадах, вакзалах выглядае па-дылетанцку няўклюдна. Так што выходзіць: аднаго жадання перайсці на родную мову мала...

**Рыгор ГАНЖУРАЎ.**

**г. Карма.**

# *ШАНОЎНЫ СЯБАР!*

Калі ты хочаш атрымліваць газету «Наша слова» ў наступным годзе, але не маеш на падпіску сродкаў — не сумуй. Табе дастаткова пацікавіцца гісторыяй нашай Бацькаўшчыны і правільна адказаць на пытанні віктарыны.

Пяць пераможцаў кожнага з трох тураў віктарыны атрымаюць бясплатную падпіску на «Наша слова» на першае паўгоддзе 1993 г. Адказы дасылаць не пазней як праз два тыдні з дня выхаду нумара з пытаннямі.

***ВІКТАРЫНА ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ «СТАРАДАЎНЯЯ БЕЛАРУСЬ» ФУНДАТАРАМІ ВІКТАРЫНЫ ВЫСТУПАЮЦЬ СУПРАЦОЎНІКІ АКЦЫЯНЕРНАГА ТАВАРЫСТВА «КРОСНЫ» СПАДАРЫ ЯН ГРЫБ І ЮРАСЬ ПАЛЬЧЭЎСКІ***

***Тур першы***

1. Плямёны якіх народаў жылі на тэрыторыі нашай Рэспублікі да прыходу славян?
2. Якія княствы былі заснаваны крывічамі?
3. У якім месцы Полацкае княства мела выхад да Балтыйскага мора? З-за чаго яго страціла?
4. У якім годзе полацкі князь Усяслаў Чарадзей стаў кіеўскім князем?
5. Якое імя мела Ефрасіння Полацкая да пострыгу ў манашкі?

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі "Саюздрук"

АБАНЕМЕНТ на газету/часопіс 63865

„НАША СЛОВА" | Колькасць камплектаў

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды: (пашт. індэкс) (адрас)

Каму: прозвішча, ініцыялы

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | месца | ліц. | на газету/часопіс 63865

„НАША СЛОВА"

(найменне выдання)

| Кошт | падпіскі | руб. | кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|---|
| | перадрасоўкі | руб. | кап. | |

на 199 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды: (пашт. індэкс) (адрас)

Каму: (прозвішча, ініцыялы)

*Беларускае замежжа*

# Госць з Канады — Кастусь Акула



Як мы наведамлялі ўжо, Беларусь наведаў вядомы грамадскі дзеяч беларускага замежжа ў Канадзе літаратар Кастусь Акула. Ён выклікаў да сябе вялікую цікаўнасць у інтэлігенцкім асяродку Менска, быў запрошаны на многія сустрэчы ў культурна-асветніцкія суполкі. Не абышлі яго ўвагай і журналісты. У шэрагу газет і часопісаў апублікаваныя ці рыхтуюцца да друку гутаркі з госцем з Канады. Замацаваліся літаратурныя сувязі на радзіме, у тым ліку, як нам вядома, пра публікацыю адной з аповесцей Кастусь Акула дамовіўся з часопісам «Полымя».

Наведаў госць з Канады і рэдакцыю «Нашага слова». Ён выказаў удзячнасць за публікацыю ў газеце артыкула пра яго, а таксама ахвяраваў у рэдакцыйны фонд 50 долараў ЗША і папрасіў, каб «Наша слова» прысылалі яму і ў наступным годзе, бо падпіска на штотыднёвік за межамі Беларусі, на жаль, не праводзіцца. Адказаў Кастусь Акула і на шматлікія пытанні супрацоўнікаў газеты.

Што найбольш уразіла яго, калі праз паўстагоддзе ён з трапа авіялайнера «Люфтганзы» саступіў на беларускую зямлю? Тое, сказаў Кастусь Акула, што зноў убачыў радзіму, удыхнуў яе паветра. Бо пядаўна ж думаў: гэтай мары ніколі не здзейсніцца. Яшчэ ўразіла, што гасцінна сустрэлі землякі ў роднай вёсцы, куды ён паехаў амаль адразу. «Мяне столькі гадоў «фашысцілі»,— сказаў Кастусь Акула, — і ў газетах, і па радыё, не кажучы пра розных бальшавіцкіх лектараў, што, здавалася б, адно маё прозвішча павінна выклікаць да сябе варожасць, але не, людзі аказаліся мудрэйшымі і разабраліся, дзе праўда, а што наклён».

А радзіму ён заўсёды захоўваў у сэрцы. «Бацькаўшчыну пакінуў юнаком,— сказаў ён карэспандэнту,— не бачыў яе вачамі дарослага чалавека, але добра памятаю, як цярпела, жыла і змагалася, як палілілася ў пажарах вайны. Гэны галакост нясціхным вулканам гарэў у сэрцы, даў стымул для творчасці...»

Усё жыццё працуючы, як ён сказаў, «у індустрыі», Кастусь Акула, тым не менш, знаходзіў сілы, каб пісаць літаратурныя творы. Шмат водгукаў — і станоўчых, і рэзка адмоўных — у свой час атрымала ягоная дакументальная аповесць «Змагарныя дарогі», выдадзеная ў Мюнхене ў 1962 годзе. Не засталіся без чытацкай увагі раман у трох кнігах «Гараватка», кніга «Усякая ўсячына», дзе змешчаны і публіцыстыка, і п'еса, і вершы, а таксама аўтабіяграфічныя згадкі ў раздзеле «Россыпы». Нарэшце — новы раман «За волю», які зроблены ў дэтэктыўным жанры.

На пытанне, над чым ён працуе зараз, Кастусь Акула адказаў, што на пісьмовым стале ў Таронта яго чакае рукапіс аповесці, «заснаванай на жыцці беларускае эміграцыі ў Канадзе». Безумоўна, паездка на Беларусь унясе ў твор пэўныя карэктывы. Будуць напісаны таксама нататкі пра ўражанні ад наведання радзімы, ад сустрэч з землякамі — хлебаробамі і рабочымі, творчай інтэлігенцыяй, студэнтамі і палітыкамі.

Ён плануе ажыццявіць і яшчэ адну важную грамадскую справу — паспрыяць стварэнню з дапамогаю свядомых беларусаў, што жывуць у Злучаных Штатах Амерыкі ды ў Канадзе, Фонду імя Францішка Багушэвіча для прэміравання лепшых твораў беларускай мастацкай літаратуры. Ідэя пакуль на стадыі распрацоўкі, але ён спадзяецца, што справа з яе ажыццяўленнем не зацягнецца.

Так што творчых задум у Кастуся Акулы багата. Пажадаем жа яму плёну і моцнага здароўя!

## Праверце дакладнасць афармлення абанемента

**Для афармлення падпіскі на газету ці часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, у адпаведнасці з умовамі, выкладзенымі ў каталогах «Саюздруку». Запаўненне месячных клетак пры пераадрасоўцы выдання, а таксама клеткі «ПВ-МЕСЦА» робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі і «Саюздруку».**

**На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны. Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце ставіцца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітком аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

**Падпісная цана на 1 месяц — 3 руб. 50 кап.; на 3 месяцы — 10 руб. 50 кап.; на 6 месяцаў — 21 руб.**

*Адам БАГДАНОВІЧ*

# БАГАЧ



***Багач па народным календары — асенняе абрадавае свята сонечнага культу ў беларусаў, пазней прымеркаванае да дня нараджэння Божай Маці — Прачыстай, як завуць яе ў народзе.***

***А. Багдановіч адзначае, што ў XIX стагоддзі пад назвай «Малая Прачыстая» свята бытавала на большай частцы тэрыторыі Беларусі і толькі ў Ігуменскім і Ваўкавыскім паветах было вядома пад назвай «Багач». Этнограф назіраў яго сам у маладосці і апісаў у кнізе «Перажыткі старажытнага светапогляду ў беларусаў» (1895). Цікава, што магічны абрад з цягам часу перарос у добрую вясковую традыцыю абыходзіць з сявенькай двары гаспадароў у пару шчодрай восені.***

У Ігуменскім павеце Багачом завуць Нараджэнне Багародзіцы (8 верасня старога стылю). У жыцці земляроба гэта самы шчаслівы час, час параўнаўчага дастатку, калі і ў беднага ёсць хлеб на стале, а ў багатых «як князі скірды шырока сядзяць, падняўшы галовы». Адсюль зразумела, чаму народ называе Багачом свята, якое супадае з часам канчатковай уборкі ўраджаю. Але ёсць факты, якія прымушаюць думаць, што Багач — адзін з багоў земляробства ў дахрысціянскі перыяд, відазменены нестараўскі Даждбог сонца, бог дастатку і багацця, аб чым гаворыць і сама яго назва.

Уяўленне пра гэтага бога сцерлася ў памяці народа, аднак сведчанні аб тым, што ён, гэты бог, калісь займаў месца ў вераваннях беларусаў, захавалася ў абрадах. Хоць Багачом называюць, уласна кажучы, Нараджэнне Багародзіцы, але свята спраўляюць не толькі ў гэты дзень, а і ў іншыя святы, блізкія да асенняга раўнадзенства. Калі, напрыклад, у вёсцы ёсць царква або капліччка ў гонар святога, дзень якога ў гэты час святкуецца, то святкаванне Багача прыстасоўваецца менавіта да гэтага дня.

Галоўную ролю ў абрадзе іграе «багач» або «багатца». Гэта лубянка жыта з уваткнутай у зерне васковай свечкай. «Багач» стаіць на працягу ўсяго года ў доме чарговага гаспадара, у пачэсным куце пад абразамі. У гэты дзень свечка запальваецца. Запрашаецца святар адслужыць набажэнства, якое і служыцца перш за ўсё ў тым доме, дзе стаіць «багач». Затым гаспадар услед за святаром нясе «багача» ў наступны двор, дзе іх сустракаюць гаспадары. Для сустрэчы ставяць на двары стол, накрыты белым абрусам і ўстаўлены лубянкамі з жытам, пшаніцай, ячменем і іншым зернем. «Багач» ставіцца на стол да іншых кашоў, затым служыцца кароткае набажэнства. Святар і асобы, што з ім прыйшлі, запрашаюцца ў хату для пачастунку, прычым «багач» ставіцца на покуці. І так абыходзяць па чарзе ўсе дамы. Зерне, якім сустракалі «багача» ідзе царкоўнаму кліру.

Тым часам па другі канец сяла зганяюць усю жывёлу, і, калі абыйдуць усе двары, з «багачом» абыходзяць статак. Пасля гэтага яго нясуць у дом да пэўнага гаспадара, дзе ён і застаецца на ўвесь год. «Багач» па павер'і прыносілі у хату багацце і шчасце.

У пэўных мясцовасцях жыта і воск для «багача» збіраецца з усёй вёскі і падменьваецца толькі тады, калі «багач» па чарзе абыдзе ўсю вёску або калі згарыць свечка. А ў іншых мясцовасцях жыта і свечка падменьваюцца штогод чарговым гаспадаром, прычым жыта для яго намалочваюць з першага «зажынкавага» снапа, які ўсюды на Беларусі карыстаецца вялікай пашанай. Кожны гаспадар ставіць яго дома ў пачэсны кут. Гэта робяць і там, дзе Багача зусім не святкуюць. У апошнім выпадку падмененае «багачовае» жыта змешваецца са звычайным і ўжываецца на насенне. Прыгатаванне свечкі адбываецца падчас агульнай вячэры ўсіх удзельнікаў свята ў суправаджэнні абрадавых песень, якія нагадваюць дажынкавыя.

Ці не ёсць гэта — злучэнне зерня, сімвалу дабрабыту, са свечкай, сімвалам святланоснага пачатку — правобразам сонца Даждбога,— крыніцы святла і разам з тым апекуна земляробства. Акрамя таго, тое, што святкаванне Багача больш-менш супадае з часам асенняга раўнадзенства, таксама часткова сведчыць аб прыналежнасці гэтага свята да сонечнага культу, і калі гэта слушна, то такім чынам запаўняецца прагал у цыкле святкаванняў у гонар сонца. Адно з гэтых святкаванняў несумненна спраўлялася ўвосень. Калі Каляды прысвячаліся зімоваму сонцу, Масленіца і Вялікдзень — вясноваму, Купала — летняму, то была б незразумелай адсутнасць свята ў гонар асенняга сонца, тым больш, што ў гэты менавіта час першабытны чалавек бачыў вынікі яго дабратворнага ўплыву.

Трэба яшчэ заўважыць, што па-беларуску слова «багач» не ўжываецца ў тым сэнсе, як у рускай мове — у сэнсе «багаты чалавек». У гэтым сэнсе беларусы ўжываюць назоўнік «багатыр» або прыметнік «багаты». А «багач» ужываецца толькі ў вышэйпаказаным сэнсе, гэта значыць, як народная назва Нараджэння Багародзіцы і лубянкі са збожжам і свечкай. Апошняя, зрэшты, не ўсюды называецца «багачом».

 



Павел СЦЯЦКО

# СУТНАСЦЬ

## Пра лінгвістычную тэрміналогію Браніслава Тарашкевіча

Браніслаў Тарашкевіч — выдатны сын свайго народа, гонар беларускай нацыі — шмат зрабіў і ў галіне беларускага мовазнаўства. Яго «Беларуская граматыка для школ», выдадзеная ў 1918 годзе, была па сутнасці першым нарматыўным падручнікам па граматыцы, фанетыцы і арфаграфіі беларускай мовы. Яна абагульніла і замацавала тагачасныя пісьмовыя традыцыі і мела выключнае значэнне для працэсу адраджэння нашай мовы і культуры ў 1920-ыя гады, для школьнага навучання і авалодання пісьменнасцю шырокімі коламі дарослых.

Вывучаючы «Беларускую граматыку для школ» Браніслава Тарашкевіча, бачыш, як удумліва ставіўся яе аўтар да вызначэння сутнасці граматычных з'яў, іх тэрміналагічнага абазначэння. І сёння, праз 75 гадоў пасля яе выхаду, «Граматыка» гэтая не страціла свайго навуковага і навучальна-дыдактычнага значэння. Навуковыя і метадычныя ідэі акадэміка Б. Тарашкевіча павінны быць скарыстаныя пры адраджэнні нашай нацыянальнай культуры, пры ўнармаванні, удасканаленні і далейшым развіцці сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Спынюся на некаторых пытаннях закранутай тэмы, бо спадчына Б. Тарашкевіча надта навучальная і карысная для нас і сёння.

Браніслаў Тарашкевіч называў тую часціну мовы, словы якой абазначаюць прадмет, тэрмінам *прадметнік*. І гэтае абазначэнне вельмі дакладнае і трапнае, яно выразна матывуецца. Найменне ж *назоўнік* разумеецца як гурт слоў, якія *называюць* (назоў-нік). Але ж назыўную функцыю маюць усе паўназначныя словы: і прыметнікі, і лічэбнікі, і дзеясловы, і прыслоўі, а не толькі назоўнікі. Іншыя часціны мовы сваёю назваю паказваюць на іх сутнасць, іх граматычную адзнаку. Скажам, *прыметнік* — гэта назоў *прыметы* (прадмета), *лічэбнік* называе *лічбу* (лік), *дзеяслоў* — словы з значэннем *дзеяння* і г. д. Скарыстаны Б. Тарашкевічам тэрмін *прадметнік* адразу скіроўвае нас да разумення, што словы гэтай часціны мовы абазначаюць *прадмет*. Кажучы па-навуковаму: маюць катэгарыяльнае значэнне прадметнасці (стол, дом, горад), як прыметнік — значэнне прыметы прадмета (драўляны, земляны, добры). Як бачым, граматычнаму класу слоў са значэннем прадметнасці больш падыходзіць Тарашкевічаў тэрмін *прадметнік*. Ён добра кладзецца ў сістэму тэрмінаабазначэння часцінаў мовы: прадметнік, прыметнік, лічэбнік, займеннік.

Б. Тарашкевіч вылучаў два разрады прадметнікаў: 1) *пачуццёвыя* — тыя, якія «мы ўспрымаем знадворнымі пачуццямі — зрокам, слыхам, смакам, вошчупам і 2) *разумовыя* — гэта прадметы нашай думкі, розуму». Такое абазначэнне больш дакладнае і даходлівае, чым тое, якім мы карыстаемся сёння: *канкрэтныя* і *абстрактныя*, ці *адцягненыя* (назычанні ці калькі з іх). Б. Тарашкевіч больш дакладна абазначае і той разрад прадметнікаў, які ў сучасных граматыках называецца *адушаўлёныя* і *неадушаўлёныя* назоўнікі. У Тарашкевіча яны маюць больш матываваную ўнутраную форму і тэрміналагічнае абазначэнне: *ажыўленыя* і *неажыўленыя* прадметнікі. Тэрмін *абвяшчальны лад* таксама, на мой погляд, больш прыдатны, чым *абвесны лад*. У Б. Тарашкевіча чытаем: «Абвяшчальны лад абвяшчае, што было, што ёсць і што будзе: хадзіў, хаджу, буду хадзіць». Гэты тэрмін выкарыстоўваецца і са значэннем «апавядальны» (сказ).

Вучоны выкарыстаў адметна беларускія тэрміны: *галасавыя струны*, або *вязі* (цяпер ужываюць назычаныя тэрміны, напрыклад, *галасавыя звязкі)*. Заканамерны — свой, беларускі — тэрмін у Тарашкевіча — *зліты* (гук, сказ), а не назычаны *злітны* (расійск. слитный). У «Беларускай граматыцы» выкарыстаны і іншыя ўласнабеларускія тэрмінаабазначэнні: *паказальныя* займеннікі (не: указальныя=указательные), *будучны* час (не: будучы=будущий) і іншыя.

Асобную частку «Беларускай граматыкі» займае «Правапіс». Тут таксама бачым цікавыя знаходкі вучонага. Ён піша: «Галосныя пішуцца так, як вымаўляюцца (гукавая, або фанетычная *аснова*)». Усё тут выразна і зразумела. А мы сёння кажам тут пра фанетычны *прынцып* правапісу. Праўда, выкарыстоўваем і тэрмін *аснова*, калі вызначаем асновы пунктуацыі. Але што значыць тэрмін *прынцып*, нідзе не кажам. Слова ж *аснова* ўсім зразумелае.

Б. Тарашкевіч добра адчуваў тэндэнцыі развіцця мовы і падпарадкаванне пазычаных слоў законам роднай беларускай мовы. Ён пісаў: «Трэба думаць, што заўсёды будзе тэндэнцыя (нахіл) і проста жыццёвая патрэба праводзіць аканне і ў чужаземныя словы». Думаецца, што нагаданыя і іншыя думкі нашага славутага вучонага-мовазнаўцы вельмі актуальныя для нас сёння, калі мы адраджаем нашу мову, вяртаем занядбанае сваё, каб умацаваць карані роднага слова.

*Матэрыялы для слоўніка «Беларускія імёны»*

# ЯК ЗАВУЦЬ ЧАЛАВЕКА?

Мая радзіма — гэта наваколле мястэчка Лявонпаль, што на заходнім беразе Дзвіны, у Мёрскім раёне. Калі я прыязджаю туды, наведваю знаёмыя вёскі і хутары, размаўляю з землякамі, палудную разам з родзічамі — заўсёды трымаю напагатове аловак і запісную кніжку. Вось некалькі запісаў пярлінак народнай мовы з маіх падарожжаў па Мёршчыне:

*Ала-ала* — пра пустыя размовы; *чын-чынаром* — усё выдатна; *адкінуць пархі* — памерці (з адценнем непрыязні); *піляхаць* — рэзаць; *згрыбеўшы* — састарэўшы; *як з хваста сарвеш* — кра ўдачу.

Але зараз мне хочацца пазнаёміць вас не з прымаўкамі ці трапнымі слоўцамі маіх землякоў, а з іхнімі імёнамі. Вось якія людзі жылі і жывуць у нас:

Адэля, Акуліна, Алёкса, Альжуня, Ампілюша, Антоля, Артулюк, Анухрэй, Анэта, Арцюша, Аўдоля;

Банедак;

Вадзя, Вальгуша, Ванюга, Варка, Вінцук;

Галіяш, Ганузя, Ганэта, Генька, Гіленка, Гілюся, Гіляры (Гілярка);

Дамініся, Дарка, Дарота, Домна;

Ігналля;

Казюк, Каруся, Касцюк, Катарына, Каятан, Клёрачка, Кляўда, Косцік, Крысціна, Купрыян;

Ладымер, Лёдзя, Лёнця, Ліксандра, Лікунор, Ліма, Лісавета;

Магдалена, Мальвінка, Мар'ёха, Мар'ічка, Марка, Марта, Марута, Марыля, Мар'ютка, Міколка, Міхалачка, Міхалюк, Міхась;

Нюра, Нікіпар, Нюся;

Палінар, Параска, Паўка, Паўлюк, Петрачок, Проска, Прузына;

Рыпіна;

Сальвук, Сашка, Сашачка, Сімон, Стапан;

Таўдор, Тэкля;

Фаценя, Фонька, Фрасення;

Халюся, Хвёдарка, Хвядорка (жонка Хведара);

Цукулай, Цупрук;

Юрачка;

Янук, Яўгення, Яхрэм...

Хачу адзначыць, што памяншальна-ласкальныя вымаўленні імёнаў адрасуюцца людзям пажылым. Ад самага дзяцінства да смерці чалавека завуць Міколкам, Юрачкам, Петрачком...

За вочы людзей могуць яшчэ называць прызыўкамі: Мельнічыха, Смятаннік, Піцюліха (муж — піцуль, п'яніца), Пазвоншчык, Барадаты, Цёплы, Кароль, Магір, Воінскі, Падрэцкі, бабка Хачыха...

Цікава, як дападае да нас новая слова. Калісьці жыў на адным хутары чалавек, які гнаў гарэлку і прадаваў. Яго назвалі Капераціўам. А нехта ў даўнасці гандляваў цукеркамі. Такая работа рознілася з ратайскай, за што «купец» атрымаў прызыўку Цукярнік.

У 1947 годзе з французскага шахцёрскага горада Валансьена вярнуўся мой дзядзька Аляксандра Дзмітравіч. І да смерці ён меў мянушку — Француз.

Сяргей ПАНІЗЬНІК.

*Дапытлівым*

## «ЗУБРАЎ» ГУК

Вымаўленне намі, беларусамі, гука [р] вельмі характэрнае. А таму з нас часта кпяць: наўмысна перакручваюць беларускія словы або вымаўляюць расійскія з цвёрдым *р*. Ды значна горш, калі мы самі ўжываем чужое слова, у якім ёсць мяккае *р*. Нашы органы маўлення адладжаны на цвёрдае вымаўленне гэтага гука, і таму атрымоўваецца такая яго дэфармацыя, што і не дзіўна пачуць заўвагі пра грубасць нашай мовы.

Паводле Я. Ф. Карскага, цвёрды *р* мог прыйсці ў нашу мову як дыялектная з'ява з агульнаславянскай мовы, якой было ўласцівае памякчэнне гэтага гука. Але існаваў і цвёрды *р*. Вучоны спасылаўся на такі ж гук у сербскай мове. Пацвярджае даўняе існаванне цвёрдага *р* на ўсходнеславянскіх абшарах надпіс на гліняным посудзе X стагоддзя — карчазе, якую адкапалі ў крывіцкім кургане каля Смаленска ў 1949 годзе. Надпіс той чытаюць як *гороушна* ці *гороухща* — так, нібы, называлі гарчыцу. Верагодна, што ў гэтым слове адлюстраваны дзве беларускія моўныя рысы: вельмі асаблівы гук, які перадаецца літарай *у*, і цвёрдае *р*.

У самых ранніх помніках беларускага пісьменства знаходзім *р* мяккі і *р* цвёрды. Прыкладам, у надпісу на крыжы Ефрасінні Полацкай, зробленым Лазарам Богшам у 1161 годзе, ёсць словы: *крьстъ, приметь, продати, раба*. Мяккі *р*, цалкам верагодна, мог з'явіцца пад уплывам старажытнай пісьмовай традыцыі, як і ў іншых выпадках перадачы пісцамі асаблівасцяў гукаў нашай мовы. Я. Ф. Карскі падае прыклады зацвярдзення гука [*р*] у тэкстах XIV стагоддзя: *сентябра, терать, Дрыса*. У далейшым словы з гэтай фанетычнай асаблівасцю яшчэ часцей з'яўляюцца ў рукапісах і ў друкаваных кнігах. Перадаюць гэты характэрны беларускі гук Сымон Будны *(вечера, церъкви)*, аўтары Статута літоўскага 1566 года, бачым яго ў Актавай кнізе Магілёўскага магістрата 1578 года *(вепръ, перъвей, тепер, тры)*, у перакладных аповесцях пра Баву і Трыстана.

П.П.

## «Легалізаваць» размоўныя словы

У нумары 24 газеты спадар Васіль Хомчанка падае некалькі слоў яго роднай вёскі. Іх «легалізацыя» не выклікае нярэчаннаў. Толькі трэба асцерагацца абмежавання аманімічнасці шмат якіх слоў беларускай мовы. Калі не ўлічваць арэал слова-амоніма за межамі адной вёскі, то збядненне мовы непазбежна. Прапануючы штосьці ў слоўнік беларускай мовы, а значыць і ў літаратурную норму, трэба заўсёды гэта памятаць.

*Вышчарак.* Паходзіць яно ад слова «шчэрыць» (зубы). Блізкае слова па сэнсу «скаліць» (зубы). У нашай вёсцы звычліва называюць вышчаркам вясёлага падлетка, юнака або дзяўчынку. Дарослых ужо так не называюць.

*Скаба.* У нас часцей за ўсё скабой называюць рабро. Дарэчы, І. І. Насовіч у сваім слоўніку (1870) дае двухварыянтнае тлумачэнне гэтага слова — і як стрэмку, і як рабро (у посудзе).

*Хлуд.* Тлумачэнне гэтага слова ў нашай вёсцы адназначнае: зруб студні (калодзежа). Асобную плашку зрубу называюць хлудзінай.

Спадзяюся, што спроба спадара Хомчанкі будзе працягнута іншымі з ласкі рэдакцыі газеты.

В. ШЫДЛОЎСКІ.

*Сто слоў*

## Апяразаць

У склад праславянскага слоўніка ўключылі і беларускае *апяразаць*. Складальнікі ўзялі яго з «Беларуска-расейскага слоўніка», складзенага М. Байковым і С. Некрашэвічам і выдадзенага ў 1925 годзе ў Менску. Гэтае ж слова запісаў М. Гуліцкі ў пяцідзесятых гадах у вёсцы Зарытава Ляхавіцкага раёна: *Апяразаў міш плеч папругаю*. Так яно трапіла ў «Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы», што пад рэдакцыяй Ф. Янкоўскага выйшлі ў 1960 годзе ў Менску. Як бачым, гэты нібы дыялектызм сустракаецца і ва ўсходняй і ў заходняй частках Беларусі.

Маскоўскія лінгвісты схільны выводзіць слова *апяразаць* ад праславянскага дыялектнага дзеяслова *перзаці*, ад якога маглі пайсці ўкраінскае *оперезати* (апаясаць) і, верагодна, сербахарвацкае *запрезати, запрежем* (запрагаць). У сваю чаргу дзеяслоў утварыўся ад назоўніка *перз*, які мог азначаць *пояс*. У далейшым значэнне слова *апяразаць* (падпаясацца) развілося да *апяразаць* (выцяць, сцебануць так, што канец вяроўкі ці папругі абвіўся вакол цела). Але такое значэнне развілося толькі ў беларускай мове. Ды цяпер слова *апяразаць* адышло ў нябыт, як і метад выхавання з дапамогай такога дзеяння.

П. ПАШКАВЕЦ.



 



## Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску

***Рубрыку вядзе***

***Лявон БАРШЧЭЎСКІ***

Стваральнік славутых «Лузіяд», якія фактычна сталі нацыянальным эпасам партугальскага народа, Луіш Ваш ды Камоэнш (Камоэнс; 1525—1580) пакінуў па сабе таксама вялікую колькасць дасканалых санетаў. Тры з іх упершыню перакладзены на беларускую мову спецыяльна для нашай рубрыкі.

***Луіш ды КАМОЭНШ***

* * *

Любоў маю, памылкі, лёс заганны —
Усё мая разгубленасць злучыла
Ў жыцці насычаным; а мне б хапіла
Таго, каб толькі мог кахаць аддана.

Усё прайшоў я, ды на сэрцы раны
Ад тых пакут, якія прычыніла
Мне доля цяжкая, што навучыла
Не мець уцехаў, шчасця быць каханым.

Рабіў памылкі я ў жыцці няспынна,
Падставу лёсу даў — мяне зняволіць
За рой падзей няспраўджаных, праклятых.

Каханне — то адно падман хвілінны...
О, як знайсці таго, хто задаволіць
Майго ліхога Генія Адплаты?!

* * *

Калі паціху сонца напаўняе
Сваім слабым святлом абшар прыроды,
Іду я па ўзбярэжжы Асалоды,
І мроіцца мне варагіня тая:

Як валасы на галаве ўкладае,
Ці як руку на твар кладзе заўсёды,
Ці як ідзе, як спыніцца з нагоды
Спаткання — ды вясёла размаўляе;

Ці сцішыцца яна, ці ўраз акіне
Мяне то поглядам зусім спакойным,
То позіркам усхваляваным, порсткім:

То радасна, то скрушна варагіні —
Вось гэтак, замаркочаны і мройны,
Іду я на жыцці пустым і жорсткім.

* * *

Цяпер я ў гэтакім зусім няпэўным стане,
Што ў полымі ад холаду ўсё калачуся,
Што адначасна нейк плачу ды смяюся;
Абняўшы свет увесь — не маю адчування.

Адно ў душы — няпэўнасць і неўладкаванне;
Агонь свой страціў я, а звонку весялюся;
То больш не веру ні ў ва што, то спадзяюся,
То глупствы мной кіруюць, то — наканаванне.

Застаючыся на зямлі, я да нябёсаў
Лячу — ў гадзіну тысяча гадоў мінае,
Ды як жа мне пражыць іх за гадзіну?

Што ж сталася са мною? Так няпроста
Адказаць мне — ды я скажу, як хто спытае:
Бо я ж убачыў Вас, маю Жанчыну.

**Пераклад з партугальскай**
**Лявона БАРШЧЭЎСКАГА**
**і Якуба ЛАПАТКІ.**

***Мама, пачытай***

***Алесь БАДАК***

## Жабяняткі

— Жабяняткі! Жабяняткі!
Хоціць вам рабіць зарадку! —
Кліча мама жаба дзетак. —
Напякла я вам катлетак,
Смачнай кашкі наварыла,
Ещце, покуль не астыла!
Жабяняткі кашку з'елі,
З'елі ўсе катлеткі.
Вось харошыя якія
Ў мамы жабы дзеткі!
Узялі па булцы з макам
І сказалі:
— Мама, дзякуй!



## Што рабіць?



***Цэлы дзень,***
***Цэлы дзень***
***Я хаджу,***
***Нібыта цень.***
***Цэлы дзень***
***Адзін гуляю.***
***З братам***
***Зноў не размаўляю.***
***Ну, а што,***
***Калі свае***
***Ён мне цацкі***
***Не дае?!***
***Я сумую.***
***Брат таксама.***
***Можа нас памірыць***
***Мама?***

## Шчупак



А было аднойчы
Так:
З рэчкі вынырнуў
Шчупак.
Пасядзеў крыху
На сушы
І прамовіў,
Уздыхнуўшы:
— Тут, вядома,
Хораша,
Толькі вельмі ж
Горача!
Смачна
Пазяхнуў
І назад
Нырнуў.

## Лічылкі



**Раз, два, тры,**
**Мыўся коцік на двары.**
**А калі закончыў мыцца,**
**Наступіў на лапку мышцы.**
**— О-ё-ёй! Хіба так можна?!**
**Плача мышка. — Асцярожна!**



**Раз, два, тры, чатыры,**
**Наш камар сабраўся ў вырай.**
**А за ім павучок**
**Стаў збіраць сундучок.**
**Села сойка на сасну**
**І сказала:**
**— Ну і ну!**

***Алег БЕМБЕЛЬ***

## З «падпольнай» кнігі

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—34).*

Современная белорусская молодёжь воспринимает белорусский язык как «вясковы», как «деревенский». 1975 год для Белоруссии был переломным: впервые в истории городское население превысило сельское, и эта тенденция всё более усиливается. Всё это, конечно, сказывается...

Интеллигенция, к сожалению, не выполняет необходимой духовной роли. Большинство интеллигентов заранее ориентировано только на русскую культуру — это плохо. Потому что это заранее второразрядная русская культура. Если бы первоpазрядная — я был бы рад и полностью согласен. А второразрядная — это мне не нравится.

В то же время я принципиально не разделяю точку зрения, что одна мова решает полностью все проблемы.

Главное, это национальный характер. Белорусский национальный характер стабилен, со стабильным набором компонентов. Скромность (сцiпласць) — центральная черта белорусского национального характера. Несмотря на то, что Чечёт пишет на польском, а Дунин-Марцинкевич — наполовину на польском, — это белорусские художники, потому что их внутреннее отношение к миру — белорусское, у них белорусский национальный характер. Мицкевича я полностью не отношу к белорусской культуре...

Можно и работая на русском языке глубоко выразить белорусский национальный характер, быть белорусским исследователем. Внутри белорусской культуры центральная — это не проблема языка, а проблема белорусского отношения. Так что М. **внутри** (за исключением одной чисто теоретической книжки) белорусский исследователь, и ты совершенно напрасно зачисляешь его в белорусскую секцию русской философской культуры...

(— Я разглядаю яго творчасць як развіццё беларускай філасофскай культуры ў неадэкватнай моўнай форме, якая і змест у значнай меры робіць неадэкватным аб'екту адлюстравання. Але самае горшае — надобная неадэкватнасць (а фактычна — маральная двухсэнсавасць) з боку такога высокапрафесійнага і вядомага чалавека, як М., разбэшчвае навуковую моладзь, спрыяе яе «нацыянальнай стэрылізацыі»).

...Меня в целом интеллигенция не устраивает. Не «культуртрегеры» (М., С. — их всего-то 5-6), а техническая интеллигенция, врачи, культпросветработники. Они составляют абсолютное большинство. И в эту широкую плынь нужно вносить национальное самосознание. Из 9 млн. населения Белоруссии 8 млн. белорусов. Из них миллиона два должны быть носителями национальной духовной культуры — на уровне освоения и передачи. Самое страшное, что эти люди не имеют момента национального самосознания.

В данном случае я выступаю как об'ективный философ.

Я был в Абхазии. Там национальное самосознание во много раз выше... Даже если бы я был русским шовинистом — только ради этого я должен был бы подымать белорусское национальное самосознание, национальное самосознание широких слоёв белорусской интеллигенции. Однозначная ориентация на одно русское убивает тонкие возможности как белорусской культуры, так и культуры русской. Даже Энгельс говорит, что белорусы — между поляками и русскими...

Одна из слабостей русского национального характера: он максималистичен, стремится всегда к истине, считая её однозначной. Трагедия в том, что и современная белорусская культура стремится к русской истине, только к ней...

Мне больно видеть, как три исконных центра белорусской культуры (Гродно, Витебск, Вильно) лишены реальной связи с польской культурой. Минск никогда исторически не был центром белорусской культуры, эта слабость до сих пор сказывается.

Гродно — это наша надежда. Там польское телевидение действует как фактор культуры. Но белорусской культуры там сейчас нет... На Гродно я надеюсь потому, что исторически там есть зачатки настоящей белорусской культуры.

Почему из Гомеля ничего не вышло?.. Там же 10 лет Университет!.. Город с 373 тысячами населения должен давать отдачу республике по культуре...

Мы должны по-другому относиться к спадчине...

Мицкевич изначально исходил из единения с национально-белорусским восприятием. Я не могу смириться, что в репертуарах белорусских театров нет ни одного произведения Мицкевича.

Инбелкульт был лучше Академии. Сама тенденция исследования белорусской культуры там была конструктивней...

А школьное дело?.. В Сухуми — 3 абхазские, 2 армянские, 4 грузинские и 4 русские школы. Вот так!.. В Белостоке 4 белорусские школы, а в Минске (данные 2-летней давности) из 131 школы белорусские только три!.. А ведь без этого нет национальной культуры...

Не надо административно навязывать белорусский язык. Но я хочу, чтобы у людей из другой республики зародилось уважение к белорусскому языку...

У нас мало театров (15 — из них 4 кукольных). В одной Варшаве 17 театров. В Эстонии 9 профессиональных театров — а она меньше Минской области. Нам нужен Государственный польский театр БССР, украинский и даже еврейский (как был когда-то). Нужно развивать областные театры — как центры культуры.

*(Працяг будзе).*

*Горас МАККОЙ*

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

*(Працяг. Пачатак у №№ 32—34).*

— У цябе багата адметных сяброў,— сказаў я.— Паштальён, Джынкс, Мэйсан... Можна сказаць, адны сябры і ніводнага ворага ў свеце...

V

Аўтобус поўніўся людзьмі, якія спяшаліся на працу. Я кінуў манету ў скрыначку каля шафёра і прайшоў у салон, выстаўляючы напаказ мой сняданак у пакеце, каб усе бачылі, што я таксама еду на працу. Зірнуўшы ў газету, якую чытаў мой сусед, я заўважыў, што маім уцёкам па-ранейшаму адводзілася месца на першай старонцы.

Выйшаў я на прыпынку, дзе выходзілі шэсць-семь пасажыраў. Змяшаўшыся спачатку з імі, збочыў затым у накірунку да гаража з выглядам чалавека, які ходзіць гэтай дарогаю доўгія гады.

Джынкс быў у Мэйсана ў кабінеце. Яны чакалі мяне.

— Трэба сказаць,— усміхнуўся Мэйсан,— часу ты не губляеш.

— Я павінен сплаціць пазыку Холідэй,— сказаў я і запытаўся ў Джынкса: — Усё гатова?

— Усё,— адказаў ён.— А вось у Мэйсана, думаю, не.

Я павярнуўся да Мэйсана. Ён хітра ўсміхнуўся і пагладзіў уяўную бараду.

— Я зняў яе па тым тыдні,— сказаў ён.

— Не разумею.

— Бараду зняў. За каго ты мяне прымаеш? За Дзеда Мароза? Дзесяць працэнтаў — і я даю тачку? Я за фасоль не працую.

— Гэта табе Джынкс так сказаў? Дзесяць працэнтаў? — усміхнуўся я.— Ён мяне дрэнна зразумеў...

— Я — дрэнна? — запярэчыў Джынкс.— Не, ты так сказаў...

— Я сказаў — дваццаць пяць працэнтаў, Джынкс,— абсек я яго, падмаргнуўшы яму нібыта і неўпрыкмет, па-змоўніцку, але і так, каб Мэйсан гэта заўважыў і вырашыў, што ён мяне «абуў».— Я сказаў: Мэйсану за тачку — чвэрць...

— Вось гэта ўжо лепш,— згадзіўся Мэйсан.— Дык што, Джынкс казаў, што колер «Зэфіры» табе не падабаецца?

Я кінуў пакет з маім сняданкам у сметніцу.

— Не толькі колер,— адказаў я,— мне сама «Зэфіра» не падабаецца. Надта ўжо прыкметная. Я хацеў бы мець закрыты «Форд» з маторам «Мэркуры». Рыхтык як у ганчакоў...

— Значыць, «Зэфіра» табе не даспадобы. Што ж, тады ідзі гуляй.

— Гэтым разам пойдзе «Зэфіра», але больш — ніколі. Так што паклапаціся і раздабудзь мне чорны «Форд» з маторам «Мэркуры». І восемдзевяць нумарных шчыткоў, з розных штатаў.

— Ну ты, гаўно! — затрос ён, усхадзіўшыся, галавою.— Для такога жабрака, як ты, ці не занадта?

Не зважаючы на яго, я павярнуўся да Джынкса:

— А рэвальверы?

Ён кіўнуў на Мэйсана:

— У яго.

— Здаецца, табе і рэвальверы не даспадобы? — сказаў Мэйсан.

— Ты выдатна ведаеш, што даспадобы. Давай мне іх.

Нейкае імгненне ён няўпэўнена глядзеў на мяне, потым адчыніў шуфляду ў стале і дастаў два кольты 38-га калібра з блакітнаватай сталі. Я ўзяў іх, узважыў на далоні, уважліва агледзеў, праверыў абодва спускавыя механізмы... Рэвальверы былі адмысловыя.

— Бляха, ты тут сапраўдны цырк перад намі ладзіш! — з'едліва ўсміхнуўся Мэйсан.

Я з усяе сілы ўдарыў нагою па яго крывой назе. Ён заенчыў і сагнуўся, а калі выпрастаўся, ягоны твар усё яшчэ крывіўся ад болю.

— Ніколі больш не кажы мне гэтага! — сказаў я.

— Ты што, Ральф, звар'яцеў? — умяшаўся Джынкс.

— Зразумеў? — абсек я яго, паварочваючыся да Мэйсана.— Ніколі больш не кажы мне гэтага!

— Валі адсюль! — агрызнуўся ён.— Давай-давай!

Я спакойна глядзеў на яго:

— Колькі за пугачы?

— Прэч! — Твар у яго па-ранейшаму крывіўся.— Валі, давай! Кладзі рэвальверы на стол і шуруй.

— Колькі? — зноў спытаўся я.

Яго ажно распірала ад шалу.

— Дзвесце долараў за два,— адказаў ён нарэшце.

— Згода,— сказаў я. Я ведаў, што гэта занадта дорага, але не хацеў спрачацца з ім.— Хадзем, Джынкс. Адчальваем.

— Грошы! — сказаў Мэйсан.

— Грошы ў мяне будуць праз гадзіну,— адказаў я.— І я заплачу за ўсё: і за рэвальверы і за «Форд» з маторам «Мэркуры».

Ён апусціўся ў крэсла і пачаў гладзіць сваю скрыўленую нагу абедзвюма рукамі, быццам гэта было якое дзіця. А твар усё крывіўся. Я кіўнуў Джынксу галавою, мы разам выйшлі з кабінета і селі ў «Зэфіру».

— Дальбог, Ральф,— сказаў Джынкс, калі мы паехалі,— табе не трэба было рабіць гэтага. Ён інвалід...

— Тым больш няхай зважае на тое, што кажа.

Збочыўшы, мы ўліліся ў паток машын.

— Навошта раскідвацца грашыма? — зноў пачаў Джынкс.— У цябе быў ужо рэвальвер. Дык на чорта другі?

— Я не люблю звычайныя рэвальверы. Я табе ўжо гэта казаў. Заўсёды іх цярпець не мог. Таму і папрасіў аўтаматычныя. А дзе ён іх раздабыў? Яны зусім новенькія...

— А, ён можа займець усё, што хочаш. Пісталеты, карабіны, аўтаматы, слёзатачывы газ...

— Ды ты што?! Гэта ж страшэнна небяспечна — даставаць усе гэтыя рэчы...

— Яго швагер — галоўны наглядчык на буйным заводзе ў прыгарадзе. У іх там хапае гэтых цацак...

— Тады, вядома, лягчэй,— сказаў я.

Джынкс пад'ехаў да стаянкі за магазінам нумар адзін.

— Дзе? — запытаўся ён.

— Дзе хочаш,— адказаў я. На гадзінніку было пяць хвілін на дзесятую. — Час дакладны?

— Паўгадзіны таму падганяў,— адказаў ён, паркуючы машыну. Калі ты прыкінуў правільна, то ён павінен з'явіцца тут з хвіліны на хвіліну.

— Можа, у яго зноў бутэлькамыйніца зламалася?.. Ты купіў лейкапластыр?

— Купіў.— Ён дастаў з кішэні два пакеты і паказаў іх мне.— А вата ёсць?

— Ёсць. І маскі таксама.

Я расшпіліў пінжак і паказаў яму прышпіленыя да кашулі маскі. Гэта былі маскі накшталт дзіцячых. Адшпіліў адну і аддаў яе Джынксу. На шчоках у яе былі чорныя плямы, над вуснамі — закручаныя дагары вусы. А мая была дзявочая: шчокі пунсовыя, рот вялікі, вочы падмаляваныя. Джынкс, ні слова не кажучы, паклаў сваю маску ва ўнутраную кішэню пінжака.

Неўзабаве ён штурхнуў мяне локцем у бок: да магазіна пад'язджаў грузавічок.

— Гэта ён? — запытаўся Джынкс.

— Ён.

Вядома, гэта быў Джо. Ён выйшаў з грузавічка і выставіў бутэлькі з малаком у скрыню.

— Думаеш, справішся з ім адзін? — запытаўся Джынкс.

— Вядома.

Хлапчук у шэрым фартуху рабочага крамы выйшаў са службовага ўваходу, падышоў да грузавічка з вялікім кашом.

— Прывітанне, Джо!

— Прывітанне, жэўжык.

Хлапчук залез у грузавічок і пачаў складваць у кош пачкі масла і сыра, кардонкі з яйкамі. Кош хутка напоўніўся, і хлапчук вярнуўся ў магазін. Джо пайшоў услед за ім, цягнучы па асфальце скрыню з бутэлькамі малака.

— Бачыў? — запытаўся я ў Джынкса.

— Бачыў. Заметана. Я еду за табою да магазіна, стаўлю каля яго тачку, уваходжу і чакаю побач з лядоўняй.

Джынкс паехаў, а я, усё роўна як гуляючы, падышоў да грузавічка. Са службовага ўваходу выйшла нейкая тоўстая летная кабета. Калі яна прайшла, я ўскочыў у грузавічок і скурчыўся за сядзеннем шафёра. Узяў у кішэнях пінжака рэвальверы і паклаў іх каля ног. Потым зняў капялюш і пінжак і паклаў іх з краю сядзення. Адзін рэвальвер паклаў у левую кішэню штаноў, другі ўзяў у правую руку. Неўзабаве Джо выйшаў з магазіна, цягнучы за сабою пустую скрыню. Падышоўшы да грузавічка, ён закінуў яе ў кузаў. Потым падняўся ў кабіну — і раптам заўважыў мяне.

— Ціха! — загадаў я яму.

Твар мой быў сама болей за паўметра ад ягонага. Ён спалохаўся, прыадкрыў рот, я зразумеў, што зараз ён закрычыць, і ўдарыў яго рэвальверам у скроню, акурат над вухам. Гук быў такі, нібы раскавялілі дыню. Пацякла кроў. Джо абваліўся, я схапіў яго за каўнер і перацягнуў да сябе цераз спінку сядзення, каб раптам не ўбачыў які выпадковы прахожы. Потым сцягнуў з яго, як ні цяжка было гэта зрабіць у такім закутку, белы халат, пакуль ён не запэцкаўся крывёю, і ўдарыў яшчэ раз па галаве. Цяпер можна быць спакойным: нейкі час ён яшчэ паляжыць непрытомны. Я надзеў белы халат, кепку — яна была мне крыху малая,— сеў за руль і павёў грузавічок па вуліцы. Краем вока я бачыў, што Джынкс едзе за мною.

Завярнуўшы за рог, я з'ехаў уніз па вуліцы да магазіна і спыніўся пасярэдзіне праезнай часткі, каб Джынкс мог паставіць «Зэфіру» каля тратуара, не баючыся быць блакіраваным, калі настане час уцякаць. Джынкс развярнуўся і задам уехаў у пакінуты мною прамежак. Затым выйшаў з машыны і пайшоў да ўваходу. Я забраўся ў кузаў грузавічка і пачаў расстаўляць бутэлькі з малаком у скрыню. Кроў з малочніка цякла, як з свінні. Каб са старога цякло столькі крыві!.. Каля ягонай галавы была шчылінка паміж лістамі толі, якімі была заслана падлога, і я заткнуў яе кавалкам масла. Затым выйшаў з грузавічка і ўвайшоў у магазін, цягнучы за сабою скрыню з малаком. Ніхто і ўвагі на мяне не звярнуў. Я адчыніў лядоўню і пачаў выстаўляць на стол бутэлькі, калі побач з'явіўся, прыкідваючыся наведнікам, Джынкс.

— Усё ў парадку,— прашаптаў ён.

— Тады пайшлі.

Я зачыніў дзверы лядоўні, адсунуў пустую скрыню нагою ўбок і падняўся па прыступках, што вялі ў кабінет Хартфарда. Зірнуў у залу — там было сама болей з дзесятак наведнікаў. Пад лесвіцай была вузенькая пляцовачка, я зрабіў Джынксу знак, мы спусціліся і надзелі маскі.

Я адчыніў дзверы кабінета і ўвайшоў, дастаючы з кішэні рэвальвер. Хартфард сядзеў за вялікім сталом ля дзвярэй і раскладваў чэкі, купюры і манеты. За суседнім сталом, спінаю да нас, сядзела жанчына.

Пачуўшы рыпенне дзвярэй, Хартфард узняў галаву. Ён хацеў быў нешта сказаць, але, убачыўшы рэвальвер у маёй руцэ і Джынкса ў мяне за спінаю, асекся.

— Пакладзіце рукі на патыліцу,— загадаў я.

Ён так і зрабіў. Тут да нас павярнулася жанчына, і я ўбачыў на стале тэлефонны апарат.

— Устаньце і ляжце на падлогу,— сказаў я ёй.

Яна павольна ўстала і застыла ў нерашучасці. Не сказаў бы я, што яна вельмі спалохалася.

— Кладзіцеся на падлогу,— паўтарыў я.

Я пачуў, што Джынкс раскручвае лейкапластыр, пачула і яна — у вачах у яе з'явіўся нейкі агеньчык. Я зрабіў выразны жэст рэвальверам, і яна легла на падлогу. Я дастаў з кішэні два тампоны ваты і працягнуў іх Джынксу.

— Лёгчы! — гаркнуў ён і лёгка штурхнуў яе нагою. Затым склаў удвая адзін тампон, засунуў ёй у рот і заклеіў вусны лейкапластырам.

Хартфард павярнуў галаву.

— А ў вас інтэлігенты выгляд,— сказаў ён мне.

— Кладзіцеся побач з ёю.

Ён устаў і пакорліва лёг побач з жанчынаю. — Джынкс зрабіў тое ж самае з ім, затым прыўзняў ягоныя ногі і звязаў лейкапластырам лыткі і запясці.

— У цябе цяпер таксама інтэлігентны выгляд, — сказаў я, кладучы рэвальвер у кішэню.

Я сабраў усе купюры і чэкі і засунуў іх пад кашулю, манеты забіраць не стаў. Мы спакойна выйшлі з кабінета, знялі маскі і спусціліся па лесвіцы. У зале ўсё было як звычайна...

Я забраў у грузавічку мой пінжак і капялюш; сеў у «Зэфіру», і мы рванулі з месца.

Грошай усяго было шэсць тысяч сто сорак два долары. У Мэйсана ажно вочы на лоб вылезлі.

— Божа! — узвіўся ён.— Ты што, паставіў крыты рынак?!

— А чаго ты так лямантуеш?

— Чаго я лямантую? — Ажно ўчарнелы ад шалу, ён павярнуўся да Джынкса: — Ты ўжо мусіў гэта ведаць, ёлуп!

— Не кіпяціся,— спакойна сказаў Джынкс.— Гэта быў не крыты рынак.

Мэйсан, нічога не разумеючы, утупіўся, раз'юшаны, у Джынкса, затым раптам схапіў некалькі чэкаў, якія я паклаў побач з купюрамі, паглядзеў на два ці тры, і ягоныя вусны зноў скрывіліся ў шале:

— Хартфард! Хартфард! — заенчыў ён.— Гэта не лепш! Нават горш! Якраз на рагу вуліцы! Божа,— павярнуўся ён да мяне,— чаму ты не сказаў мне, куды ідзеш?

— Мне вельмі шкада, што так здарылася,— сказаў я.— Сур'ёзна. Мне вельмі шкада, што ты так хвалюешся. Я з задавальненнем растлумачыў бы табе, што мы збіраемся рабіць, каб не адна драбніца: мне не прыйшло ў галаву, што гэта можа цябе цікавіць.

На вуліцы тым часам зараўла сірэна. Гледзячы на Мэйсана, можна было падумаць, што яму ўтыркнулі ва ўрэтру распалены дрот.

— Прыдурак! — кінуў ён Джынксу.— Ісці ставіць кантору пад самым носам!

Сірэна раўла ўсё мацней. Перад гаражом пранеслася паліцэйская машына — усё вакол поўнілася ровам сірэны.

*(Працяг будзе).*

